# НАВІНКІ

13 - 26 чэрвеня 2000 №11(33) Кошт свабодны

# Каму турма, а каму «маць радна»?



# АМНІСТЫЯ

## наўрад ці закране «палітычных» злачынцаў. Ім прыйдзецца матаць тэрмін да званку...

«А ты зону таптаў, пля?» – вось пароль лета 2000. Кодлы караткастрыжаных малойчыкаў адкідваюцца на волю, папаўняючы сабой прывакзальныя бары і пракураныя тамбуры цягнікоў. Амністыя.

Дзяржава падае яе як знак непамернага гіпэрвялікадушша, што павінен узмацніць веру ў яе інстытуты. Але хто сёньня павядзецца на такую наколку? Пазачарговы выпускны на зонах – відавочная капітуляцыя існуючай пэнітэнцыярнай сыстэмы. Турмы ператварыліся ў інкубатары злачынцаў-бройлераў, фабрыкі мысьлі і мэнэджэрскія цэнтры арганізаванага бандытызму. Нары абласканыя шоў-бізнэсам і нават палітыкамі. Перада мною рэліз партыі Свабоды ад 18.06.2000, згодна якому старшыня ПС сп. Высоцкі адпраўлены ў адстаўку за тое, што з 1995г. «ён ані разу ня быў за кратамі». Галоўны корань агоніі пэнітэнцыярнай мадэлі ў тым, што яна адчужаная ад народу, яе мэханізмы абстрактныя і незразумелыя, суб'екты стэрэатыпныя. Ня дзіўна, што лягічнай кульмінацыяй такой мадэлі турмы стаў Асьвенцым.

Усё таму, што пакараньне страціла атрыбутыку гульні й відовішча, характэрныя для яе ў сярэднявечны час. Традыцыйная мадэль пакараньня абавязкова ўключала ў сябе чыста тэатральныя эфэкты: пафасная апэляцыя засуджанага да справядлівасьці, праклёну катам, жанр апошняга слова, літасьць сувэрэна. Літургія пакараньня была фактычна дэтэктыўнай пастаноўкай, дзе з дапамогай дасканалага сэміёзысу распавядалі пра абставіны злачынства, ход сьледзтва і, нарэшце, праводзілі ідэю аб трыюмфу справядлівасьці.

Па сіле рэжысуры публічныя экзэкуцыі маглі б паспрачацца з прынцэсай Турандот Мэерхольда або сцэнкамі Living Theatre. Прысутны на казьні народ меў магчымасьць увайсьці ў мэханізм адпраўленьня пакараньня і пераглядзець яго рэзультаты – адбіць засуджанага ў катаў. Плябей становіцца судзьдзём. Засуджаны – героем. Хіба гэта ня той самы прынцып карнавальнай інвэрсіі, які Бахцін лічыў залогам самарэгуляцыі грамадзтва, умовай прагрэсу?

Сучасная турма – прадукт эпохі мадэрнізму, дзе ўсё падпарадкаванае вузкай рацыянальнасьці. У эпоху Societe du spectacle яна стала анахранізмам, ня здольная выконваць нават самую прымітыўную функцыю – аднавіць перад вачыма публікі жахі пакараньня, кампэнсуючы такім чынам уяўныя выгоды злачынства. Такая турма нам не патрэбная! Мы не атакуем гуманнасьць, не заклікаем вярнуць часы інквізытара Таквэмады або зьвярнуцца да практыкі адсячэньня канечнасьцяў як у Саудаўскіх каганатах. Беларусі сёньня перш за ўсё патрэбныя мадэлі судавытворчасьці і пакараньняў, якія разбурылі б аднабокі імідж зэка як macho і адрадзілі б пакараньне як маторчык разьвіцьця грамадзтва нароўні зь дзіцячымі садкамі, бібліятэкамі і Акадэміяй Навук.

Стар.4-5

*Беларусь стала ядзернай дзяржавай!*

Стар.2

**Браты-2 або неспадзяваная амністыя**

Стар.4-5

**Пуцёўка на Басовішча: цёмная кухня Супера.**

Стар.6



*Не расслабляйцеся – 2-га ліпеня ў Менск прыедзе Пугачыха. А пакуль...*

Стар.7

**ЭЎРА-2000**

ЯК ТРЭБА ГЛЯДЗЕЦЬ ЧЭМПІЯНАТ.

КОМІКС

НА СТАР.8



Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс 63439. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 22.06.2000 г., а 01.01. Тыраж 10100 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная Зорка» ВПП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №1623

## *ДыплЁм*

### Бурштын Беларусі.

Нечаканы аблом напаткаў студэнта 5 курсу геафаку БДУ Паўла Севярынца, які больш вядомы як лідэр «Маладога Фронту». Ён заваліўся на самай туфце – абароне дыплёму. А праблема хавалася ў залішнім спадзяваньні студэнта на халяву.
Будучы ўпэўненым, што кіраўнік дыплёмнай працы як заўжды ня будзе сябе напружваць чытаньнем усялякай галімацьці, Паша забіў на дыплём, прысьвеціўшы ўвесь вольны час блуканьням па сталічных піўнухах. Абыйшоўшы ўсе злачныя месцы Менску, Севярынец толькі й рабіў, што прычашчаўся піўком.
Калі ж вераломна грымнуў час абароны, Пашу прыйшлося троху папахаць і за адну ноч настругаць рознай белебярды, якая толькі першай прыходзіла ў галаву. А што магло прыйсьці ў распаленую хранічным бадуном галаву гора-студэнта, чытач здагадаецца.
Можна было ўявіць сабе высакародны шок камісіі і асабліва дэкана геафаку Іваныванча Пірожніка, калі тыя азнаёміліся з тэмай дыплёму студэнта Севярынца, якая мела назву... «Бурштын Беларусі»!
Гарнуўшы старонку-другую, увазе камісіі адкрыліся жахлівыя натуралістычныя сцэны з жыцьця сталічнага маргінэсу.
Мала таго, паводле афіцыйнай пастановы камісіі, дыплём Севярынца «быў насычаны ненарматыўнай лексыкай», якую Паша, відаць, падхапіў, тусуючыся з булдырамі на вядомай аліварыйскай піўнусе «Сасок».
Халява не прайшла.
Атрымаўшы сваю «пару», Севярынец цяпер парыцца начамі за кампутарам, спадзеючыся скачаць з Інтэрнэту які-небудзь курсач на геалягічную тэму.
Дапамажыце Пашу.



# Беларусь – ядзерная дзяржава!

Грандыёзную экалягічную катастрофу, на мяжы якой Беларусь магла апынуцца на парозе трэцяга тысячагодзьдзя, удалося прадухіліць: Беларусь стала паўнавартасным сябрам г.зв. «ядзернага клюбу». Такое рашэньне было прынятае міжнароднай арганізацыяй па атамнай энэргетыцы МАГАТЭ.
Ні для каго не сакрэт, што пасьля аварыі на Чарнобыльскай АЭС радыяцыйны фон у Беларусі мае тэндэнцыю да паніжэньня. Гэта ў той час, калі кожны першы беларус ужо канкрэтна падсеў на нукліды і ня бачыць сваёй будучыні без чарговай дозы цэзію-238 альбо штодзённай дарожкі стронцыю-216 Радыяцыя стала патрэбнай нашаму народу ня менш за алькаголь або тытунь. Падумаць страшна: у нейкі пагодны дзень Беларусь магла б застацца без звычнага ўжо радыяцыйнага «забруджаньня».
У 1999 годзе ў шэрагу ўсходнепалескіх вёсак былі зарэгістраваныя выпадкі ядзернай ломкі. Такія сыгналы з рэгіёнаў цэнтральныя ўлады не маглі пакінуць без увагі. Пад пагрозу было пастаўленае выкананьне пляну геннай мутацыі нацыі, які прадугледжваў разьвіцьцё беларусаў паводле японскай мадэлі.
Колькі высілкаў прыйшлося прыкласьці беларускаму ўраду, каб дабіцца ад МАГАТЭ прыняцьця нашай краіны ў «ядзерны клюб», чытач проста ня здольны сабе ўявіць. Парогі колькіх кабінэтаў ААН прыйшлося абіць нашым прадстаўнікам, колькі паперак прыйшлося запоўніць! Вядома ж, прыйшлося й даць таму-сяму ў лапу. (Што паробіш: Аб'яднаныя Нацыі – самая бюракратычная й кручкатворская арганізацыя ў сьвеце.)
Сьпяшаемся супакоіць ня ў меру пацыфічнага чытача: ніякай ядзернай зброі ў беларусаў ня будзе. Усё нашмат цікавей: Беларусь атрымала ганаровае права захоўваць на сваёй тэрыторыі адходы заходняй атамнай прамысловасьці, а таксама набудаваць гару сваіх Чарнобыльскіх АЭС. Усе гэтыя прывілеі дазволяць падтрымліваць пастаянны радыяцыйны фон на патрэбным узроўні.
Так што нам, нацыі-радыяголіку, сьвеціць сьветлая й стабільная радыяцыйная будучыня ●

**Андрэй Сахараў**





*Жыцьцё застанецца й пасьля ядзернай катастрофы. Але выжывуць больш дасканалыя істоты. Беларусы.*

## «З задавальненьнем!»

### У Менск прыяжджае эўрапейская «тройка».




Сур'ёзныя выпрабаваньні чакаюць жыхароў і гасьцей беларускай сталіцы: да нас намылілася прыехаць г.зв. «тройка» – сумесная парлямэнцкая дэлегацыя АБСЭ, Эўрапарлямэнту і Эўрарады. Мэта візыту: вызначыць на ўласныя вочы, ці магчыма правесьці ў Беларусі легітымныя дэмакратычныя выбары.
Хто навуськаў эўрапейскіх рэвізораў і каню ясна. Апазыцыя робіць усё, каб увільнуць ад удзелу ў дэмакратычным фарсе. Легітымнасьць восеньскіх выбараў ставіцца імі пад сумнеў экстэрнам.
Таму, шаноўныя суайчыньнікі, калі Вы сутыкнецеся нос-у-нос з эмісарамі АБСЭ, якія на ламанай трасянцы будуць выпытваць вашае стаўленьне да сытуацыі ў краіне, – будзьце патрыётамі. Чужаземцы толькі й прагнуць, каб мы паапускалі сваю Бацькаўшчыну ў вачах міжнароднай супольнасьці. Ня трэба разьдзімаць у вялікія праблемы часовыя цяжкасьці. На ўсе пытаньні адказвайце толькі станоўча: «Так!», «Добра!», «З задавальненьнем!» і пры гэтым шырака ўсьміхайцеся ў твар замежнаму госьцю, каб той аж захлынуўся нашымі аптымістычнымі флюідамі. Хай абыйдуцца сьлінoй мясцовыя ачарняльнікі беларускай рэчаіснасьці.

## *Лябедзька знайшоў рэдкага жучка*



Лідэр Аб'яднанай Грамадзянскай партыі стаўся нядаўна заалягічным вынаходнікам. Знайшоўшы ў сваёй кватэры невядомую букашку-таракашку, цяглавы конь АГП А.Лябедзька не пабег з усіх ног у бліжэйшую самнэпідэмстанцыю, каб пратруціць як сьлед сваю хату. Асьцярожна ўклаўшы ў пакецік невядомую інсэкту, той адправіўся ў Акадэмію Навук. Палітычнае пачуцьце не падманула. Казяўка аказалася рэдкай цеплалюбівай пародай майскага жука Kagebentus Stukacius, які відаць заляцеў у хату шчасьлівага натураліста падчас сьпякотных дзянькоў «Гарачай Вясны» ●

## Прыехаў пан з Парыжу...




Або над намі нехта прыкалываецца, або так і ёсьць: Беларусь патроху ператвараецца ў могілкі. Вось і нашчадкаў старажытнага магнацкага роду Радзівілаў пацягнула ў родныя пэнаты.., прабачце, склепы. Раптам адзін зь іх, лежучы на сьмяротным ложку, выдаў нешта з клясыкі:
«У краіне сьветлай, дзе я ўміраю,
ля сіняй бухты.
Я не сантэхнік, я склепы маю,
...»
І сапраўды, слова нябожчыка выканалі. З пампезнай цырымоніяй імпартавалі цела Радзівіла-нябожчыка ў Беларусь і пахавалі ў фамільным склепе ў Нясьвіжы.
Відаць, не дарма народ гаворыць: «Жыць лепей на чужыне, а паміраць – на Радзіме».

## *Розум, чэсьць і сумленьне?*

СССР вяртаецца. І прызнакам працэсаў рэканструкцыі саюзнай дзяржавы стаў рэнэсанс экспэрымэнтаў над роднай мовай – знакавая фішка бальшавікоў з 17-га году. Тады гэта рабілася шляхам увядзеньня ў лексыку сумасбродных абрэвіятураў і слоўных камбінацыяў, ад якіх амаль выварочвала суставы языку: Замкомпоморде ( ЗАМеститель КОМиссара по МОРским ДЕлам), Трепетун ( Третий Петроградский Университет), Шкраб (школьный работник), ИВАН (институт Востоковедения Академии Наук), ПНИ (Психо-неврологический институт), НОЖ (Новое Общество Живописи), ну і безумоўна як не згадаць КПСС. Бяз гэтага фальклёру – савок быў бы не савок. На мінулым тыдні аятола лукашэнкаўскіх камуністаў Чыкін абвесьціў, што стварае партыю новага тыпу Камуністычную Партыю Саюзнай Дзяржавы Расеі і Беларусі. Скарочана – КПСДРіБ. Паспрабуйце вымавіць гэтае гукаспалучэньне – і адразу адчуеце ў роце прысмак застою, быццам зассаў каля пад'езду стакан «Агдама», закусіўшы чайнай каўбаскай за 2, 20. Што ж, пажадаем капээсдрыбэшнікам перамогі на восеньскіх выбарах і аднаўленьня 6-ага артыкулу аб кіруючай ролі ў грамадзіве КПСДРіБ.

# «Ня рый яму іншаму,

## бо сам застанесься безь фінансаваньня».

### Пра гэтую ісьціну забылася лідэр БХК Тацяна Процька.

Псыхічныя дэвіяцыі – вечны спадарожнік вялікай палітыкі. Узгадаем галяндзкую эпілепсію Пятра I, хранічны delirium tremens (белая гарачка) першага прэзыдэнта вольнай Расеі Ельцына, гіпэрзаклапочанасьць Пазьняка... А вось, нарэшце, у голдэн-клюб палітыкі ўвайшла і Тацяна Процька – аятолка Беларускага Хельсінскага Камітэту (БХК). Яе дыягназ красамоўны – мультыплікацыя асобы: удзень адна з шматлікіх Процек падае агенты-сыгналы аб недэмакратычнасьці восеньскага народнага волезьяўленьня, увечары ж яе мэнтальны клон паталягічна абсарбіруе гранты на падрыхтоўку тых жа выбараў. За гэта некаторыя квазіфрэйдысты прапануюць зьняць хворую з пасады. Міндзраў папярэджвае: не займайцеся самалячэньнем! Як паказвае гістарычны вопыт, падобная тэрапія толькі запаволіць разьвіцьцё палітычнага генія ●






# Мэдыя-мост для Пуціна

*Х*уткацечны скандал вакол буйнога мэдыя-магната Ўладзіміра Гусінскага аказаўся чарговай няўдалай падлёбкай расейскага самадзержца пад перадавы беларускі досьвед. Арышт прэзыдэнта холдынга «Мэдыя-мост» быў разыграны адпаведна ўсім законам жанру: «Цар за дзьверы – баярына на дыбу». Аднак аказалася, што пендаля можна даць генэралу, міністру, але ні ў якім разе не ўладальніку тузіна газэт і тэлеканалаў. Тут і выйшла ў Пуціна прамашка: у Беларусі ж не было ўласнага мэдыямагната.
А вы яго зубкамі-зубкамі, спадар Пуцін.

# Тэрарысты ўсіх краінаў, яднайцеся!?

**С**устрэча лідэраў краінаў СНД у Маскве выклікала ў некаторых нашых грамадзянаў ёрнічаньне і ўхмылкі: «Га-га, надумалі! Стварылі адзіны антытэрарыстычны цэнтар, гы-гы!..» Дарма гэты крок прэзыдэнтаў выклікае такую неспагадлівую рэакцыю.
Як нам стала вядома паводле інфармацыі агенцтва «Каўказ-Цэнтар», акурат у гэты сама час ва Ўрупінску адбыўся саміт кіраўнікоў «Садружнасьці тэрарыстычных арганізацыяў», на якім вырашаліся надзённыя праблемы дзейнасьці падрыўных цэнтраў і дэструктыўных элемэнтаў на тэрыторыі краінаў СНД і ня толькі.
У прыватнасьці было адзначана, што дзейнасьць тэрарыстычных арганізацыяў ускладняецца шматлікімі фактамі парушэньня аўтарскага права: тэракт робіць адна група, а адказнасьць на сябе бярэ дзясятак піратаў-халяўшчыкаў. Гэта, вядома, складае сытуацыю напружанасьці ў грамадзтве.
Лідэры тэргруп прыйшлі да агульнай высновы, што трэба актывізаваць дзейнасьць сябраў садружнасьці ў галіне падрыву грамадзкай стабільнасьці й нагнятаньня пачуцьця няўпэўненасьці сярод насельніцтва ●


На лаўца й зьвер бяжыць. Неўзабаве адбудзецца міжнародны саміт дзіцячых і юнацкіх тэрарыстычных арганізацыяў.




# Мужычонка з карабчонкі
## *Expo 2000 in Hannover*

«**Ч**алавек – гэта галоўнае багацьце нашай краіны! Беражыце яго!» – неаднаразова сьвярджаў Аляксандар Рыгоравіч. Менавіта такім дэвізам прадстаўленая Беларусь на міжнароднай выставе ў Гановэры. Няма нічога дзіўнага, што менавіта беларускі павільён прыцягвае ўвагу замежных наведнікаў – сінявокая Вайсруслянд заўсёды ўмела зьдзіўляць сусьвет.
Беларускі павільён аздоблены ў традыцыйным фольк-баўхаўс-стылі: сялянская хатка з саламянай страхой, стылізаванай пад фінскі шыфэр. Над нізкімі скасавурынымі дзьвярыма надпіс: «Muschik Belarus. Rukami nie kranats». На крыкі цікаўных наведнікаў: «Хто, хто на хаўзе жыве?!» з халупкі вылазіць падобны да гнома дробны мужычок зь незвычайна доўгімі, ледзь не да зямлі, рукамі. Мужычка клічуць Яўхім Францавіч. Ён дабразычліва пазірае на басурманскую публіку і з задавальненьнем раздае аўтографы: «Мужык беларус. Super dry plus. Гарантыя 10 гадоў». Калі ж Яўхім Францавіч у гуморы, то можа падзівіць публіку featureрознымі фокусамі: сагнуць качаргу, загнаць кулаком цьвік у сьцяну або расколоць ілбом цэглу. . Замежныя інвэстары пацяшаюцца й пляскаюць у ладкі.
Такога посьпеху Беларусь ня ведала з часоў вынаходніцтва бульбы. Іншыя павільёны публіка ўжо проста абыходзіць стараной. Нікога не цікавяць апошнія дасягненьні японскіх тамагочы. Пустуюць павільёны Нямеччыны й ЗША. І толькі каля нашых стэндаў заўсёды людна, чуецца дзіцячы сьмех.
Вядома ж, наша краіна магла прадставіць новую мадэль снопавязалкі, выпуск якой асвоіў нядаўна Трактарны завод, ці мадэрнізаваную палегчаную канструкцыю кувалды-самабойкі. Аднак нашто выкалёбвацца лішні раз, калі наша зямля родзіць такіх самародкаў, як Яўхім Францавіч ●

**Ёган Шварын**

# *БрутАл*

***У АЎСТРАЛІІ***
больш за 650 «нелегальных» эмігрантаў (у асноўным дзеці і жанчыны) зьбегла зь лягеру. «Нелегалаў» задалбала чакаць, пакуль улады разгледзяць іхныя справы (калі быць дакладным, такі працэс цягнецца звычайна больш за паўгады). Паўстанцы акупавалі паркінг і адмаўляюцца вяртацца ў лягер, пакуль дзяржава не разгледзіць іхныя справы. Тры паліцыянты ўзятыя змоўнікамі ў якасьці закладнікаў.

***У ПРЫГАРАДЗЕ ПОРТЛЭНДУ (ЗША)***
пратэстуючы супраць генэтычных экспэрымэнтаў над газоннай травой для гольфу, анархісты размалявалі газоны лёзунгамі «Хопіць трахаць прыроду» і раскідалі мячыкі для гольфу зь літарай «А» ў крузе. Сабатаж нанес кампаніі страты ў памеры 500 тысячаў амэрыканскіх даляраў і загубіў вынікі дзесяцігадовых экспэрымэнтаў. Адзін з дробных супрацоўнікаў кампаніі скончыў жыцьцё самагубствам.

***У АФІНАХ***
гарадзкой партызанскай групай «17 лістапада» быў застрэлены Стывэн Сандэрз, вайсковы аташэ Вялікабрытаніі. Ён стаў юбілейнай 23-й ахвярай гэтай анархісцкай арганізацыі, названай у гонар крывапралітнага студэнцкага паўстаньня ў 1973 годзе супраць ваеннай хунты г.зв. «чорных палкоўнікаў».

***У РАСЕІ***
разглядаецца да прыняцьця Дзяржаўнай Думай праект закону «Аб супрацьдзеяньні палітычнаму экстрэмізму». Задачай дзяржавы ў законапраекце абвяшчаецца «прафіляктыка палітычнага экстрэмізму» і «стварэньне ўмоваў, якія выключаюць магчымасьць праяўленьня ў грамадзтве экстрэмісцкіх настрояў». Прасьцей кажучы, уводзіцца ўзаконеная сыстэма палітычнага стукацтва, адсочваньне «асобаў, якія прадстаўляюць патэнцыйную небясьпеку».

***НА САЛЯМОНАВЫХ АСТРАВАХ***
зьявіўся новы партызанскі атрад, які вядзе ўласную вайну. 11 чэрвеня байцы атраду захапілі заходнюю сталіцу Гіза, паліцэйскі пастарунак і тэлерэтранслятар. Варта адзначыць, што ў краіне дзейнічаюць партызаны Руху Вызваленьня Ісатабу і Ўзброеныя Сілы Арла Малаіта, якія варагуюць між собку. На мінулым тыдні байцы Малаіта захапілі арсэнал і прэм'ера Саламонавых астравоў Барталамея Ўлуфаалу.

***У АКВАТОРЫІ ГАНКОНГУ***
адбылася марская дэманстрацыя рыбакоў супраць плянаў будаўніцтва Дыснэйлэнду на адным з прылеглых да гораду астравоў. Рыбакі патрабуюць кампэнсацыі ад ураду за страту багатай рыбнай тэрыторыі – асновы іхнага беднага існаваньня. А пакуль што яны паказальна абразаюць вушы Мікі Маўсу ды адсылаюць праз пошту па адной перапонцы Мак Дака сыну пэра Ганконгу.

# *СэрыЯл*
## Працяг будзе...

Сапраўды езуіцкі прысуд вынесла інквізыцыя Маладога Фронту купцы раскольнікаў, што месяц таму паспрабавалі былі захапіць уладны трон у гэтай дэструктыўнай сэкце. У адмысловай буле, падпісанай папам Севярынам Паўлам II, апублікаванай у №23 *Беларускай маладзёжнай*, праведны суд заклікае «братоў у Менску й па рэгіёнах біць у твар каляпалітычных прайдзісьветаў покуль душы подлыя ня пойдуць прэч зь целаў грэшных».
Выкананьне прыгавору не прымусіла сябе доўга чакаць. 17 чэрвеня ў Барысаве пераапранутыя й пастрыжаныя пад дынамаўскіх заўзятараў эмэфаўцы зрабілі дзёрзкі напад на аднаго з «путчыстаў» – Вадзіма Карцава.
Нагадаем, што паўгады таму Карцаў зьбёг зь Менску, прыхапіўшы з сабою золата МФ. Тады пазьбегнуць жорсткага пакараньня яму дапамагла адвакатка-сафістка матухна Лідзія (Патоцкая). Яна паставіла ў тупік раду інквізытараў, спытаўшы іх пра паходжаньне багацьцяў. Тады справу замялі.
Матухна Лідзія й на гэты раз уратавала Карцава. Калі да парачкі падбеглі двое «дынамаў», матухна Лідзія лоўкім хукам у сківіцу выключыла аднаго з нападнікаў, а другога, закруціўшы яму руку, здала падасьпеўшым міліцыянтам. Што ж, будзем чакаць разьвіцьця падзеяў. Вядома, што рэфарматары-ерацікі намераныя бліжэйшым часам сабраць Вялікі Сойм сваіх прыхільнікаў ды абвесьціць папу Севярына Паўла II жанчынай.

Аддзел расьсьледаваньняў «Н»

# Рабочыя ці кракадзілы

**С**талыя чытачы вядомай беларускай пралетарскай газэты *Рабочы* не маглі не заўважыць, што апошнім часам газэту становіцца ўсё цікавей чытаць. Аднак не сухія інфармашкі і не аналітычныя матэрыялы ў стылі Сярэдзіча прыцягваюць працавітых чытачоў. Сакрэт крыецца ў новай канцэпцыі рэдакцыі. «Мора карыкатур, фэльетонаў, анэкдотаў плюс праграма БТ – вось што патрэбна рабочаму чалавеку», – падкрэсьлівае рэдактар *Рабочага* В. Івашкевіч. – «А само слова «рабочы» мусіць выклікаць у працоўных здаровы сьмех». Па праўдзе сказаць, Івашкевіч тут не арыгінал. Патэнт на гэтае ноў-хаў мае вядомы савецкі часопіс *Крокодил, які* таксама некалі пачынаў з назвы... *Рабочий.*
Калі так пойдзе далей, то паводле тыражу *Рабочы* хутка дагоніць газэту *Навінкі* ●


РАБОЧИЙ
Единый рабочий фронт.

***Часопіс* Крокодил *таксама некалі называўся* Рабочым**

# *Геі і лесьбіянкі абламаліся*



«Русо турысто» ўжо далёка не «обліко морале», – лічаць у амбасадзе Італіі

***Н***ечакана скончыліся намеры прадстаўнікоў сэксуальных меншасьцяў Расеі выехаць у Рым на міжнародны кангрэс геяў і лесьбіянак. Прыслухоўваючыся да думкі папы Рымскага, які катэгарычна супраць гейскіх фэстаў, італьянская амбасада ў Маскве прыпыніла выдачу візаў. Спроба педаў закасіць пад турыстаў не пракаціла.

# АМНІСТЫЯ



**«ЭЛЕКТРЫЧНЫ СКАТ»**
Кліент прымацоўваецца да батарэі рукамі за галаву. Потым прамеж лапатак яму зараджаюць электрашокерам. Павышае раскрывальнасьць злачынстваў на 10%.



**«СЛОНІК»**
Рукі кліента скоўваюцца за сьпінай. На галаву апранаецца закупораны супрацьгаз. Павышае раскрывальнасьць злачынстваў на 20%. Сьмяротнасьць усяго 2%.



**«ЛАСТАЎКА»**
Рукі кліента скоўваюцца за сьпінай. Потым з дапамогай рук, палкі, вяроўкі падымаюць за рукі ўгару. Павышае раскрывальнасьць злачынстваў на 14%. Інваліднасьць 11%.

## Як катаваць

Тартуры – найстаражытнейшае захапленьне чалавецтва. Зьвесткі пра рознага кшталту зьдзекі й катаваньні можна сустрэць у разнастайных гістарычных помніках пісьменства. Старажытныя пісьмёны апавядуць нам пра разрываньне цела шчыпцамі, абліваньне смалой, разьдзіраньне канямі, чацьвертаваньне, спаленьне жывым і г.д. Прычым катаваньні першапачаткова ўжываліся ня толькі для пакараньня злачынцаў, але й для ажыцьцяўленьня «сьледчых дзеяньняў». І хаця ў нашыя часы афіцыйнае пакараньне сьмерцю ўжо ня мае такіх ізуверскіх формаў, то ў галіне правядзеньня допыту тое-сёе з гістарычных формаў катаваньняў шырака выкарыстоўваецца і нават атрымала пэўную мадэрнізацыю. Згадзіцеся, пасьля выпрабаваньня «слонікам» або «ластаўкай» можна прызнацца ня толькі ў неаднаразовым парушэньні правілаў дарожнага руху ●

## *РэцЭнзіі*

## Пакараць нельга памілаваць




Праблема злачынства й пакараньня хвалююць філёзафаў і мысьляроў не адну сотню гадоў. У адрозьненьні ад славутай папсы Дастаеўскага твор Мішэля Фуко не напружвае сваёй прагрузнасьцю. Кніга «Наглядаць і наказваць. Нараджэньне турмы» – анталёгія разьвіцьця карных інстытутаў у Францыі VIII-XIX ст., а таксама філязофіі і канцэптуалізму пэнітэнцыярнай сыстэмы. Можаце паверыць, Фуко пераплюнуў вядомы твор Севярынца «Валадарская баляда». Тут крыві паболей.

# Увага: **вы**шук!

## *Новыя сьледчыя тэхналёгіі дапамагаюць вызначаць тып палітычнага злачынцы*

Ці задумваўся хто-небудзь, колькі грошай спускае дзяржава на контарпалітычную прапаганду? Газэты, радыё, тэлетрансляцыі, падтрымка БПСМ... Усё для таго, каб выставіць дэмакратаў поўнымі далбакамі і адвадзіць ад іх электарат.

А ці не занадта дорага абыходзіцца нам такая форма прафіляктыкі палітычных злачынстваў, тым болей, што існуюць больш дасканалыя прыёмы. Напрыклад, вялікае вучэньне італьянца Чэзара Ламбразо, якое так і просіцца да адаптацыі ва ўмовах Беларусі. Чэзара Ламбразо – гэта вам не малдаванскі біндзюжнік, а прафэсар крымінальнай псыхалёгіі з Турына. Ён упершыню пачаў сыстэматычнае дасьледаваньне злачынцаў, абапіраючыся на антрапалягічныя дадзеныя, выкарыстоўваючы кранграф (штука для вымярэньня памераў галавы і частак цела). Перамераўшы цэлы табун бандытаў, прафэсар-макароньнік прыйшоў да высновы, што палітычны адмарозак-дэгенэрат ня можа тармазіць свае злачынныя паводзіны з-за сваёй біялягічнай канструкцыі.

Гэтыя схільнасьці праяўляюцца ў зьнешнем выглядзе. Гэтак, асноўныя зьнешнія прызнакі, што сьведчаць аб злачынных патэнцыях (г. зв. атавістычныя прыкметы): сплюшчаны нос, нізкі лоб, вялікія сківіцы і стыгматы на целе – усякія татухі і г.д. Адсюль ня цяжка сфармуляваць стратэгію барацьбы з такімі тыпамі. Яна складаецца ў тым, каб своечасова выходзіць па згаданых прызнаках патэнцыйных злачынцаў і браць іх пад увагу, іншымі словамі прэвэнтыўна ізаляваць ад грамадзтва.

Перад тым, як прыступіць да масавых зачыстак школаў і ясьляў на прадмет патэнцыйных нацыяналістаў, застаецца вылічыць тыповыя характарыстыкі апазыцыянэра. У гэтай справе рэдакцыя *Навінак* пераплюнула старога Ламбразо. З дапамогай кампутар-най тэхнікі мы каляжавалі фізіяноміі чатырох вядучых апазыцыянэраў краіны – Вячоркі, Статкевіча, Лябедзькі і



Шчукіна ды вывелі абрысы рожы сярэдняга апазыцыянэра. Яна перад вамі.

Калі вы пабачыце недзе людзей падобных на гэтага гамадрыла, ведайце: перад вамі благі чалавек. Адразу зьвяртайцеся ў адпаведныя органы ●

**Д-р Мэнгель**

# Апо**в**есьць

Найвядомейшы беларускі рэцыдывіст В.Шчукін, атрымаўшы на днях год з адтэрміноўкай, не пажадаў прыймаць ад уладаў падачкі ў выглядзе ўмоўнай свабоды і патрабаваў ад судзьдзі немарудзячы адправіць яго ў турму. «Год з адтэрміноўкай – да за каго ўлады мяне лічаць?!» У душы Шчукіна заёрзала думка зрабіць Прэзыдэнту нейкую падлянку. Калі цябе гэтак публічна апускаюць і даюць, як апошняму бульбакраду, год умоўна замест «зоны» – проста немагчыма ня думаць аб акцыях непакоры.

Для таго, каб вярнуць сабе чэснае імя «апазыцыянэра ў законе», беларускі адмірал Бэнбоў не зьбіраўся малоць языком. Ён прымусіць улады адправіць яго на Валадарку. Як толькі яго павінцяць, у прэсе будзе такі гвалт, што Прэзыдэнт будзе яшчэ доўга пляваца і корчыцца ў сутаргах.

Шчукін адразу ж прыступіў да рэалізацыі пляну.

На рагу Леніна і Скарыны вясёлы Рональд заклікаў карапузаў хаваць «Хэпі-Міл». Наш герой прафэсійна адкавырнуў ад бардзюру важкі кавалак асфальту й запусьціў яго ў самы эпіцэнтар нэонавай рэклямы. Пэйзаж злачынства дапоўніла налепка «Luka, game is over», якую Шчукін прыклеіў на раскарожанае шкло. На шум пацягнуліся сонныя тусоўшчыкі. Енчачы, як расстроены орган, прымчаўся мянтоўскі «козьлік». Першае, што пабачылі ягоныя

## Браты-2 або неспадзяваная амністыя




































# АМНІСТЫЯ

# Хакерскія масьці

*Сёньня ў чэкістаў доўгія «мышы».*



Хто ня чуў пра турэмных умельцаў-самародкаў, якія свамі падзелкамі засунулі ў задні праход усіх японскіх фірмачоў зь іхнымі супэртэхналёгіямі. Адзін інкогнітны ляўша, кажуць, нават зрабіў са звычайнай бэнзапілы верталёт і, як той Карлсан узьвіўся, над аховай і калючым дротам ды зьнік у тайзе.

Сёньня мы знаходзімся на парозе новага вітку тэхнічнай рэвалюцыі ў айчынных зонах.

Як стала вядома, у рамках кампаніі супраць тэрарыстаў нашчадкі «жалезнага Фэлікса» пачалі строіць фанатаў сусьветнага павуціньня (Інтэрнэт – гэта вівары для ўсялякіх сэксуальных вычварэнцаў і хакераў). Наезд праходзіць у рамках прынятай яшчэ ўлетку 1998 праграмы СОРМ, адпаведна якой кожны правайдэр павінен выдаць старэйшаму брату з Лубянкі паролі на электронку. У Валгаградзе ўжо арыштаваны такі тайны педзік-правайдэр, які адмовіўся выдзяляць гэбэшнікам паролі. Ну што ж, цяпер яго і яму падобных аматараў віртуальных дзевак і хлопчыкаў чакае паласаты кліфт і лесасека.

Хутка ўсе баракі на Калыме запоўняцца хакерамі, праграмістамі і проста цікаўнымі бурацінамі, якім іншай справы не было як глядзець удугаўскі сайт «Каўказ-цэнтар».

Новы прызыў у турмы поўнасьцю зьменіць жаргон у крымінальнай субкультуры. Пальцоўка (клявіятура) будзеісьці пад чат: «Слухай, ты, чайнік, ты куды сваю клявіятуру сунеш. Глюк, у натуры. Даўно па сыстэмным блёку не атрымліваў? Зараз табе ўсе сафты падвешу». А замест банальных шахмат ды абразкоў, сядзельцы будуць ляпіць «пэнтыюмы»

**Дацэнт**



# пра падводніка

пасажыры, быў барадаты хрэн, які з задаволенай лыбай шпацыраваў туды-сюды.

– Хто гэта зрабіў? – пацікавіўся маладзенькі мент.

– А ці вы ня думаеце, што гэта мог зрабіць я? – прыязна й пасяброўску спытаў у адказ Шчукін.

Мент адразу страціў да былога дэпутата ВС усялякі інтарэс. Людзі, якія клеюць апазыцыйныя стыкерсы, не застаюцца на месцы злачынства. Потым жлабіна ў камуфляжы пабачыў за квартал значок НРМ, нешта кракнуў у рацыю і зьбег. Шчукін з агідай у душы застаўся на месцы. Трэба было паспрабаваць яшчэ раз. На гэты раз варыянт быў стопрацэнтовы. Школьніца-сікуха стаяла каля ГУМу і тупа калупалася ў носе. У двух кроках ад яе опер пас валютчыкаў.

Шчукін вырашыў разыграць ролю пэдафіла, які зацягвае тынэйджэраў на палітычныя блядзтва. Зьнешняя дзявоцкасьць ахвяры і прысутнасьць мянцяры гарантавалі, што хутка ён адчуе на запясьцях прыемны мятны халадок наручнікаў.

**«Я хачу ў цюрагу!» – шакаваў апазыцыйнае грамадзтва славуты клаўстрафіл Валеры Шчукін. І ён рана ці позна сядзе!**

Непрымірымы апазыцыянэр расшпіліў на штанах распорак, па-заліхвацку ссунуў на бок зюдвэстаўку і пачаў нахабна клеіць Лаліту:

– Ну што, бэбі, прагуляемся на дэманстрацыю? Не пашкадуеш, – сказаў ён, сочна ўшчыпнуўшы дзяўчынку за несфармаваны падлеткавы копчык. Краем вока ён засек, што ахоўнік правапарадку зацаніў іхную салодкую пару. Зараз малалетка пачне корчыць зь сябе Алсу – і тады лічы, што пуцёўка да запаветнай «бутыркі» ў тваёй кішэні.

Чыкса павярнулася да Шчукіна і какетліва ўзяла яго за кончык барады.

– Не вапрос! – сказала яна. – Праставісься чарнілам, папік?

Сюсюкаючыся, як героі сэрыялу «Альф», яны праплылі ў накірунку сквэра мастакоў, дзе апазыцыянэр страхнуў зь сябе антылопку гну.

Жах прабраў Шчукіна. Ён амаль што заканіў: абсалютны нуль увагі з боку служкаў рэжыму Пасэйдона апазыцыйнага алімпу. Апошняе выйсьце – дробнае хуліганства.

Усімі альвіёламі свайго капітанскага голасу Шчукін залямантаваў «17 чалавек на сундук мяртвяка», стаў танчыць фламенка, паказваць людзям язык, адным словам – буяніць. Прысутны міліцэйскі нарад, пагойдваючы дубіналамі, нават не варухнуўся.

– Сёньня дзень байцоў-падводнікаў, – патлумачылі яны сваю пасіўнасьць публіцы. – Былыя падводнікі сустракаюцца, узгадваюць службу. Нам далі загад ставіцца да іх карэктна.

Несуцешны Шчукін спыніў свой курым-байран і паблукаў дахаты, асыпаючы людзей і мянтоў мацюкамі. Раптам камандор застыў, быццам яго прысварылі да завіткоў чыгунных кратаў парку імя Горкага. З раскрытага акна доміка РСДРП даносілася трансляцыя пропаведзі Прэзыдэнта. Гарант прапісываў фофан нерадзівым чыноўнікам нейкага спартовага камітэту за правал спартакіяды па рэндзю.

Пад уплывам гэтага барытону ў душы Шчукіна адбылася цудоўная перамена. Раптам ён адчуў глыбіню бездані, у якую скаціўся. Вочы нібыта нанова адкрыліся, і жыцьцё стала бачыцца цалкам інакш. Так, вырашана! Ён кіне займацца фігнёй і зноў стане сумленным грамадзянінам. Заўтра ён пойдзе да Зімоўскага і выдасьць як на духу ўсе пляны Барбароса апазыцыі. Масьлюкова абяцала прыстроіць яго ў Саўбелку сторажам. Ён яшчэ можа, яшчэ прынясе гешэфт грамадзтву, ён яшчэ дакажа, што... Шчукін адчуў, як нехта б'е яго па рэбрах. Калі ён ачуняў, ён убачыў скафандар амапаўца.

– Хто такі? – спытаў вадалаз, цяжка-цяжка дыхаючы.

– Шчукін, – ледзь прастагнаў ад болю Шчукін.

– Ну, пайшлі, – сказаў мент.

«Апраўдаць», – пастанавіў судзьдзя наступнай раніцай

**Мікола Піцерскі**



# Гора-пісьменьнік

*Каралю беларускага дэкадансу Зьміцеру Вішневу зноў адмоўлена ва ўступленьні ў Саюз Пісьменьнікаў. Хоць у труну кладзіся...*

Заля ў доме пісьменьнікаў. На сцэне вісіць футурысцкае палатно пэндзэля незаконнанароджанага брата Шагала: «Янка Купала ў пралёце гасьцініцы «Масква» зноў безвынікова спрабуе скончыць жыцьцё самагубствам у знак пратэсту супраць скасаваньня мяккага знаку». Купала намаляваны стракатымі фарбамі ў выглядзе швэйнай машынкі «Зынгер-98» (контрафактная мадэль). Пад карцінай за сталом сядзяць старшыня і сакратарка прыёмнай камісіі. Ідуць прыёмныя іспыты ў сябры Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі.

– Наступны, калі ласка.

Уваходзіць юнак, хваляваньне якога выдае ў ім Зьміцера Вішнева, паэта і пэрфаматара. У сьлед за ім уваходзяць Сін і Жыбуль, уносячы атласную труну. Сакратарка ў жаху:

– Што гэта?

Вішнеў:

– Гэта мой фэтыш, складовая частка маёй асобы. Я без труны як без нагі.

Старшыня (праціраючы акуляры):

– Та-ак, хто гэта ў нас... Ага, Вішнеў Дзіма. Што, малады чалавек, жадаеце стаць Купалам?

Вішнеў паслужліваківае:

– Думаю нахаляву атрымаць кватэру на Пуліхава і гарачую пуцёўку ў ведамасны санаторы. Толькі ўзімку ня трэба – у мяне запой.

Старшыня:

– А вось мы зараз праверым вашыя веды. Цягніце білет.

Вішнеў цягне. Старшыня пазірае ў пытаньні білету:

– Нумар 13. Першае пытаньне – «Арганічны вобраз сучаснага падлетка-патрыёта на прыкладзе герояў дылёгіі Э.Скобелева



«Арбузік і Бебешка».

Вішнеў пачынае:

– Я прааналізую гэтае эсэ з пункту гледжаньня тэорыі інтэртэкстуальнасьці. Перад намі э-э... гештальт. У герояў назіраецца абуджэньне гіпэрсэксуальнасьці, якая каналізуецца ў нематываваную агрэсію супраць фаўны. Канцэнтраваным аб'ектам гэтай рэфэрэнтнай агрэсіі становяцца бяскрыўдныя зеленахвостыя. Два імбіцылы замест таго, каб інтэрактыўна савакупляцца, сумблімуюць свае флюіды і...

Старшыня:

– Досыць. Давайце другое пытаньне – «Жанчыны ў беларускай літаратуры».

Вішнеў пачынае павольна агаляць цела, пакуль не застаецца ў адных плаўках колеру зімовай вішні, кладзецца ў труну і пачынае дэклямаваць свае вершы замагільным голасам:

*Штодня ў тваю кашу я дадаю таўчонае шкло цукар са шклом – мілая сумесь... Ты памрэш у страшэнных сутаргах Ты будзеш корчыцца як прыціснутая зьмяюка Тваё вочы ператворацца ў белыя цукровыя мячы...*

Сакратарка губляе прытомнасьць.

Старшыня (трыюмфальным голасам):

– Вы сьпісваеце, малады чалавек! Гэта ж раньні Аркадзь Куляшоў, верш пра нянавісьць да акупанта. Як вам ня сорамна! Ладна. За вынаходніцтва (паказваючы на труну) стаўлю «пяць», а за іспыт – «два». Прыйдзеце ў наступны раз.

Вішнеў (выходзячы і шморгаючы носам):

– Я буду скардзіцца ў Пэн-клюб!

Купала на сьцяне ўздыхае з палёгкай ●

**Усевалад Гарачка**

## БасОвішча

### Усім! Усім! Усім!

14 – 15 ліпеня ў Гарадку пад Беластокам (Польшча) пройдзе штогадовы фэст беларускай маладзёвай музыкі «БАСОВІШЧА - 2000». У першы дзень пройдзе конкурс маладых беларускіх і польскіх гуртоў з удзелам СОНЦА МАО, БАН ЖВІРБА, POSTSCRIPTUM, ГОЛАЯ МАНАШКА, ТВАР, ЦМОКІ, СКЛЕП, МЛЫН, БЕЗЬ БІЛЕТА, HAPPY FACE. У другі дзень выступяць пераможцы і госьці: NRM, УЛІС, КРАМА, ЗЬНІЧ, МЯСЦОВЫ ЧАС, DEVIATION, КАЛЬЯН, EXIST, а таксама польскія рок-зоркі. Фэстываль праходзіць на адкрытым паветры і зьяўляецца бясплатным. Невялікая плата за месца для намёту ў ахоўваным лягеры.




### Як дабрацца?

Вельмі проста. Набудзьце ваўчар прыкладна за 1 бакс. Дарога складаецца з трох этапаў:

1. Дабрацца да Горадні не складае цяжкасьцяў. Квіток у агульным вагоне зь Менску прыкладна 1 бакс.
2. Перасякайце мяжу на падсадцы за 1 бакс да Кузьніцы-Беластоцкай. Адтуль за 2 баксы да Беластоку на аўтобусе або цягніку.
3. Зь Беластоку за 1 бакс накіроўваецеся ў бок Баброўца да Гарадка (Grodek).

Такім чынам, агульны бюджэт падарожжа ў адзін бок – 5 баксаў. А існуе яшчэ аўтастоп.

## БукінІст




*С.Харэўскі. «Зьвяры-суайчыньнікі». – Менск: Наша Ніва, 2000. – 92 с.*

**Гэтую выдатную кніжку можна замовіць праз рэдакцыю газэты *Навінкі* ўсяго за 500 руб. Паштовыя пераводы разам з адваротным адрасам дасылайце на адрас: 220134 Менск, п/с 33. П.Канавальчыку.**







Сябру журы сп. Віталю Супрановічу было сумна
































 



# THE MATRIX
## або прэтэнзіі Галівуду на Найноўшы Запавет

Фільм братоў Ванчоўскіх стаў сапраўдным хітом зыходзячага тысячагодзьдзя. Таленавітым сцэнарыстам нарэшце ўдалося вырашыць праблему, дзе пачынаюцца нябёсы і скончаецца пекла. Мяжа знайшлася – яна праходзіць праз ваш кампутар. Наш новы Бог жыве менавіта там. Кібэрбог – вось новае тварэньне кінематографу! Ня ведаю, ці быў Хрыстос такі ж сама прыгожы як і любімец усіх жанчын Кеану Рыўз, але для апошняга роля Збавіцеля стала адной зь лепшых. Гаворка ідзе пра супэрэкстрэмальны hi-fi ўсіх часоў і народаў глыбока рэлігійны фільм «Матрыца», які абнадзейвае, што Мэсія прыйдзе, трэба толькі дачакацца. Што, яшчэ не разгледзілі рэлігійна-мітычнага сымбалізму за грудастай, абцягнутай у чорную скуру Тройцай? Эх, мужыкі, запрашаем, калі ласка, да нас у кляштар:

Сучаснаму кібэр-Збавіцелю на фіг ня ўпалі расьпяцьці.



Сьвяты Нэо. Ікона пачатку трэцяга тысячагодзьдзя.

### Выбраны

«Той Самы» (англ. The One).

**У хрысьціянстве**: Ісус Хрыстос ёсьць Мэсія, які выратаваў чалавецтва ад грахоў. Хрыстос перакладаецца са старажытнагрэцкай мовы як «Памазанік Божы» (англ. «Anointed One»).

**У фільме**: Кеану Рыўз грае Нэо, якога прымаюць як Таго Самага, Выбранага, які павінен выратаваць чалавецтва ад кампутарнага монстра. Анаграма Neo (Нэо) якраз і ёсьць One (Выбраны).

### Марфэй

**У грэцкай міталёгіі**: Марфэй – гэта бог сноў.

**У фільме**: Марфэй – лідэр паўстанцаў, які змагаецца за тое, каб разбудзіць чалавецтва, якое апынулася ў рабстве Матрыцы, ад снупадобнай рэальнасьці.

### Сыён

**У Апакаліпсысу**: Сыён – царства Бога, дзе будуць жыць праведныя пасьля разбурэньня сьвету.

**У фільме**: пасьля таго, як Матрыца парабаціла і разбурыла сьвет, Сыён – адзіны горад, дзе жывуць свабодныя людзі.

### Навуханосар

**У Бібліі**: Навуханосар быў бабілёнскім царом, які займаўся тлумачэньнем сваіх сноў.

**У фільме**: Марфэй назваў свой карабель «Навуханосар» і сустракаўся з аракулам для разуменьня рэальнасьці, якая была ня болей чым сон.

### Здраднік

**У Новым Запавеце**: Юда, адзін з дванаццаці апосталаў, прадаў Хрыста за 30 срэбнікаў.

**У фільме**: здраднікам стаў Сайфэр (паралель Cypher – Lucipher), адзін з членаў каманды Марфэя, які прадаў Марфэя за вячэру зь біфштэксам.

### Уваскрасеньне

**У Новым Запавеце**: Хрыстос памёр на крыжу, але ўваскрос праз тры дні, каб запэўніць народ, што ён сапраўды Выбраны Богам. Зараз гэты цуд сьвяткуецца як Вялікдзень.

**У фільме**: Нэо напаткаў такісама лёс, але падобна да таго, што сьвяткаваць яго мы будзем апасьля.

Амінь, таварышы. Прыемнага прагляду ●

**Караль Вайтыла**, кінакрытык

# Яго звалі **не** Арлекін



Уздзеяньне мастацтва на чалавека ні ў кога даўна не выклікае сумневаў. Напрыклад, пасьля прагляду фільму «Фантамас» у былым СССР значна ўзрос траўматызм сярод дзяцей, а пасьля выхаду на экраны фільму «Тарзан» толькі за адзін дзень у бальніцы паступіла каля тысячы дзяцей зь пераломамі рознай ступені цяжкасьці. І гэта стала быць ужо нармальнай тэндэнцыяй: кожны новы амэрыканскі фільм, хай то «Дональд Дак» або «Амэрыканская прыгажосьць», выклікае ў Амэрыцы ўспышку гвалту сярод падлеткаў школьнага ўзросту.

Але, на жаль, ня толькі заходнія фільмы выклікаюць такія дэфармацыі ў псыхіцы грамадзтва. Варта хаця б прыгадаць беларускае кіно, а менавіта фільм, які зьявіўся на нашыя экраны ў1989 годзе і адразу ж стаў культавым, «Мяне завуць Арлекін».

Сюжэт фільму пабудаваны на апісаньні жыцьця групы гопнікаў, пра іхныя праблемы і жыцьцё. Самае цікавае тое, што першы беларускі баявік здымаўся ў Горадні, і ў ролі валасатых адмарозкаў у ім гралі ня хто іншыя, як тусоўка гарадзенскіх мэталістаў, якія яшчэ доўга пасьля прэм'еры падсьцёбвалі адзін аднаго: каго, як, і пры якіх абставінах паводле сцэнару зрабілі лохам.

Пацярпелі ад кінематаграфічнай славы й населеныя пункты. Напрыклад, Вагонка (так называўся круты прыгарад у фільме) нічога добрага ад такой рэклямы не атрымала. Яе жыхароў, звычайных мірных хлапчукоў, гарадзкія пачалі шчаміць і біць, як толькі тыя прыяжджалі ў Горадню.

Але ж усё гэта фігня ў параўнаньні з тым, што перажыў хлапчук Андрэй, які граў у фільме другарадную эпізадычную ролю. Нарадзіўся і жыў гэты хлапчук у Вялікай Бераставіцы – тыповым раённым цэнтры. Калі кінастужку прывезьлі ў пасёлак на прэм'еру, сярод жыхароў пачаўся ажыятаж. Кожны, хто тэлефанаваў у кінатэатар «РОДЗІНА», адзін зь нямногіх культурных цэнтраў пасёлка, мог даведацца: адну з галоўных роляў у кіно грае зямляк. Такога ажыятажу ў кінатэатры не было з часоў апошняй пракруткі «Танцора дыска».

Народ ламіўся ва ўсе дзьверы, квіткі яшчэ да абеду былі прададзеныя на ўсе тры сэансы, людзі гатовыя былі сядзець на падлозе, толькі б убачыць знаёмы твар на экране. І, о богі, якое было ўражаньне землякоў, калі яны ў асобе адмарожанага фашыка, якога Арлекін адлупцаваў у сральніку ў першыя ж хвіліны фільму, прызналі Андрэйку. Хлапчук, якога кожны ведае з маленства, мала таго, што грае толькі маленькую другаплянавую ролю, ў якой проста атрымоўвае пі..ды, дык яшчэ і падаўся ў «фашыстыя». Апасьля моманту бойкі ўся заля заварожана чакала, што вось-вось іх аднасяльчанін зьявіцца зноў, што ён зразумеў свае памылкі і разам з галоўным героем будзе змагацца за праўду. Але ж рэжысэр фільму, відаць меў іншае меркаваньне.

Адразу ж пасьля сэансу купка вэтэранаў пайшла на разборкі пад хату кінаактора. Таго на шчасьце не было дома, таму разьюшаныя вэтэраны пабілі бацьку. Можа і затаўклі б старога да сьмерці, калі б ня жонка, якая падняла лямант і спалохала народных мсьціўцаў. Праз тыдзень у раённым клюбе, па загаду сельсавету праводзілася лекцыя, на якой усяму пасёлку растлумачылі, што гэта было не па праўдзе, што Андруша проста граў ролю. Дарма. Да гэтае пары небарака-актор, калі ідзе па вёсцы, чуе за сьпінай: «О, глянь, фашысты пайшоў!»

Вось яна моц сапраўднага мастацтва ●

**Эркюль П'еро**



















































 

# КОМІКС



























Мяч у французаў. Пас у накірунку цэнтру поля. Выдатна гуляе галавой Зыдан. Мяч у штрафной пляцоўцы. **УДАР!..** Але Лібэра на месцы


















Аднак атака працягваецца. Анры б'е праз сябе ў падзеньні, яшчэ ўдар! Го-о-о-ол! 1:0 Францыя наперадзе. Варатар сьцьвярджае, што было па-за гульнёй. Мяч зноў у полі. Падача Бартэса

















Грае корпусам Томэш. Штрафны. Анэлька падхоплівае мяч і праходзіць па левым краі. **УДАР!** І зноў варатар бясьсільны! **2:0** на карысьць французаў. Можна зразумець дасаду варатара.




















Здаецца, гульня становіцца ўсё напружаней. Што робіць судзьдзя? Падобна, у яго спрэчка з лайнсмэнам. Тым часам звалка ў штрафной партугальцаў. Каронны ўдар Зыдана. Варатар партугальцаў

















у скачку бярэ мяч і адпраўляе ў цэнтар поля. Паглядзіце што робіць Томэш! Удар зь сярэдзіны поля! Ай-я-яй! Які гол! Які прыгажун! Партугальцы лікуюць 2:1. Сьвісток арбітра — і каманды ідуць надзесяціхвілінны перапынак. Так. Гэта будзе сапраўды незабыўны матч. Хто ж выйдзе сёньня ў паўфінал?